ГРОДНА
№12 (564),
13 чэрвеня

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Чалавек Духа



Нараджэнне св. Яна паказвае, што з самага пачатку яго – і нашага – жыцця Бог піша сцэнарый святасці і дапамагае ў яго рэалізацыі.

на старонцы 2

## Шчырая размова з доктарам



У трэцюю нядзелю чэрвеня ў Беларусі адзначаецца Дзень медыцынскага працаўніка. А ў касцёлах у гэты дзень моляцца за медыкаў.

на старонцы 5

## Як ён любіў чалавека, як ён любіў святарства!



Да гадавіны смерці а. Леона Вітэка OMI, які сваім заўзятым святарскім служэннем паспрыяў духоўнаму абнаўленню беларускіх вернікаў.

на старонцы 7

# „АДПАЧНІ ЎВА МНЕ”



Сплыў на байдарках у спалучэнні з духоўнымі практыкаваннямі арганізуе моладзевае душпастырства “OPEN”

**Наперадзе многіх чакае летні адпачынак. Дарослых – водпуск, моладзь – канікулы. І якія варыянты? Турцыя ці Егіпет, шашлыкі з сябрамі і наведванне родных. Канешне, можна! А яшчэ можна сплыць на байдарках, пакінуць дзяцей манахіням, пакуль самі арганізуем вольны час, паўдзельнічаць у фэсце – і ўсё гэта ў спалучэнні з узрастаннем у Хрысце.**

на старонцы 3

# ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ: Я Ў АНГЛІІ!




Сёстры назарэтанкі з Беларусі побач з адной са славутасцей Англіі

**9 мая тры манахіні з беларускай супольнасці сясцёр назарэтанак – с. Агнешка Рамашка, с. Гэлена Драбіновіч і с. Віргінія Хацян – адправіліся на служэнне ў Англію. Новай пляцоўкай стала Апостальская нунцыятура, размешчаная ў сталіцы краіны – Лондане. Манахіні прыбылі па запрашэнні мясцовага Апостальскага нунцыя Клаўдыа Гуджэроці, які служыў у Беларусі з 2011 па 2015 год. Іерарх, маючы сентымент да нашай краіны, прапанаваў сёстрам паспрабаваць сябе ў манаскай паслузе за мяжой.**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Некаторыя ўжо адправіліся на вакацыі, іншыя ўсё яшчэ чакаюць. Пачатак чэрвеня – добры час, каб падумаць пра адпачынак. Магчыма, некаторыя ўжо запланавалі водпускі, паездкі і варыянт правядзення гэтага часу.

Падчас сёлетніх вакацый таксама нельга забываць пра Бога. Толькі Творца можа даць чалавеку перадышку і супакой. Бясспрэчна, адпачыць пасля працы, у водпуску, на канікулах – добра, але сапраўдны адпачынак, экзістэнцыяльны, у якім узнавіць свае сілы можа наша сэрца, паходзіць ад Бога.

Сёлета зноў не будзе арганізаваных пешых паломніцтваў, але гэта не павінна выклікаць смутак і скаргі. Магчыма, варта самастойна выбрацца ў якое-небудзь святое месца, каб перажыць там прысутнасць і дзеянне Бога ў нашым жыцці.

Давайце памятаць, што чалавечае цела можа адпачыць на пляжы ці ў басейне, розум – падчас чытання добрай кнігі, у кіно ці тэатры, але сэрца адпачывае толькі ў Богу.

Няхай вакацыі стануць для нас магчымасцю сузірання і праслаўлення Пана Бога, а не ўцёкамі ад рэальнасці. Давайце паглядзім на акружаючую рэчаіснасць і скажам: якое цудоўнае наша жыццё!

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**15 чэрвеня**

***Успамін бл. Іаланты, манахіні.***

*Іаланта, дачка венгерскага караля Белы IV, прыбыла ў Кракаў на двор сваёй сястры св. Кінгі як некалькігадовая дзяўчынка. Выхаваная там, яна выйшла замуж за Баляслава Набожнага, князя Калішскага, у 1256 годзе. Узорная жонка і маці, яна асабіста выхоўвала сваіх дзяцей і аказвала вялікі ўплыў на наваколле. Разам з мужам засноўвала шматлікія францысканскія кляштары, а іншыя надзяляла. Апекавалася беднымі і хворымі. Пасля смерці мужа ў 1279 годзе яна разам з сястрой Кінгай уступіла ў кляштар кларысак у Старым Сончы. Пасля смерці св. Кінгі пераехала да кларысак у Гнезне, дзе ў 1298 годзе памерла ў арэоле святасці.*

**17 чэрвеня**

***Успамін св. Альберта Хмялёўскага, манаха.***

*Адам Хмялёўскі нарадзіўся ў Ігаломі каля Кракава (Польшча) у 1845 годзе. Удзельнічаў у Студзеньскім паўстанні, дзе страціў нагу. Пасля таго, як скончыў навучанне жывапісу, распачаў мастацкую працу. Будучы поўным творчых сіл, пакінуў жывапіс і прысвяціў сябе служэнню бедным, а затым заснаваў Кангрэгацыі братоў і сясцёр, якія служаць убогім. Памёр у Кракаве ў 1916 годзе. Папа Ян Павел II у 1983 годзе далучыў яго да ліку бласлаўлёных, а ў 1989 годзе – да ліку святых.*

**21 чэрвеня**

***Успамін св. Алаізія Ганзагі, манаха.***

*Алаізій паходзіў з княжацкай сям'і. Нарадзіўся ў 1568 годзе ў Кастыльёне-дэле-Сціўер у Ламбардыі (Італія), як старэйшы сын Фердынанда ды Кастыльёнэ. Набожна выхаваны маці, ён схіляўся да духоўнага жыцця. Перадаў права кіраваць княствам свайму брату і ўступіў у ордэн езуітаў у Рыме. Даглядаючы хворых, заразіўся і памёр у 1591 годзе.*

**24 чэрвеня**

***Урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля.***

*За паўгода да нараджэння Езуса Паўсюдны Касцёл адзначае ўрачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля, які папярэднічаў прыходу Хрыста і прадставіў Яго людзям. Стаў першым святым, якога ўшаноўвалі ва ўсім Касцёле. Ён нарадзіўся на 6 месяцаў раней за Езуса (параўн. Лк 1, 36), верагодна, у Айн-Карыме ў Іўдзеі. Пры абразанні атрымаў імя Ян, згодна з наказам анёла. З гэтай нагоды Захарыя праспяваў песню, у якой усхваляе выкананне месіянскіх абяцанняў і вітае сына як прарока, які будзе ісці перад Панам і рыхтаваць Яму шлях у чалавечых сэрцах (параўн. Лк 1, 68–79).*

# ЧАЛАВЕК ДУХА

працяг са с. 1

**Св. Ян Хрысціцель – постаць, якая ўспамінаецца двойчы на працягу літургічнага года: у таямніцы яго нараджэння і смерці. Ён з'яўляецца адзіным святым, дзень нараджэння якога мы адзначаем гэтак жа, як і самога Езуса Хрыста. Гэты факт паказвае яго важную ролю ў гісторыі нашага збаўлення і яго сувязь з жыццём самога Месіі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




*Барталаме Эстэбан Мурыльля, "Нараджэнне св. Яна Хрысціцеля", алей на палатне, каля 1655 г.*

Бацькі Яна – Захарыя і Альжбета – не маглі мець дзяцей, і гэты факт расцэньваўся як ганьба. Аднак у выніку Божага ўмяшання яны сталі здольнымі перадаць жыццё. Захарыя быў вымушаны правесці час чакання нараджэння Яна ў маўчанні, бо з-за таго, што засумняваўся ў Божай моцы, ён застаўся без голасу. Толькі пасля нараджэння дзіцяці, калі Захарыя паслухмяна выканаў Божы загад адносна імя Яна, яго язык развязаўся і ён змог блаславіць Бога.

**Урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля адзначаем 24 чэрвеня.**

Альжбета таксама вызвалілася ад асуджэння з боку іншых людзей і адчула, што з яе знята ганьба.

Варта звярнуць увагу на дзеянне Святога Духа ў жыцці Захарыі, Альжбеты і іх сына. Св. евангеліст Лука вельмі далікатна, але ў той жа час выразна паказвае, што нараджэнне Яна адбылося дзякуючы дзеянню Святога Духа.

Паглядзім спачатку на саміх сужэнцаў, якія "былі справядлівымі перад Богам, жывучы беззаганна паводле ўсіх запаведзяў і наказаў Пана" (Лк 1, 6). Вялікім болем для іх была адсутнасць дзяцей. Але ў гэтай складанай сітуацыі яны цалкам даверыліся Пану Богу, дзякуючы Яму сваю праблему.

Ці можа чалавек так давяраць без дапамогі Святога Духа? У рэшце рэшт, людская мудрасць даўно прыдумала б іх адмовіцца нават ад мар пра дзіця. Аднак калі ў такіх абставінах чалавек дазволіць запаліць у сабе хаця б агеньчык надзеі, ён нарэшце дачакаецца ажыццяўлення сваіх малітваў. Быць чалавекам, які дазваляе Святому Духу сабою кіраваць (параўн. Гал 5, 18), значыць давяраць насуперак надзеі і падпарадкоўвацца Божым планам.

Таму, паколькі Захарыя і Альжбета былі людзьмі Духа, то і іх сын павінен быў ім быць. І мы пра гэта выразна чуем ад св. Лукі: "А дзіця расло і ўзмацнялася духам" (Лк 1, 80). І так было на працягу ўсяго жыцця Яна. Пустыня, Іардан, удзяленне хросту, прапаведуемае вучэнне і, нарэшце, мучаніцкая смерць – усё гэта мог зрабіць толькі чалавек Духа.

**Запытайма сябе:**

*Ці адкрываемся мы на дзеянне Святога Духа ў сваім жыцці?*

*Ці знаходзім час на тое, каб быць з Ім?*

*Ці ствараем сабе ўмовы, каб слухаць Яго голас?*

*Ці не было б мэтазгодна выкінуць са свайго жыцця тое, што заглушае Бога (тэлебачанне, інтэрнэт і г. д.), ці хаця б значна абмежаваць іх выкарыстанне?*

Хто ведае, ці сярод нас Бог не выбраў яшчэ аднаго Яна Хрысціцеля, які мае быць пасланы, каб падрыхтаваць Пану народ дасканалы (параўн. Лк 1, 17).

Давайце паспрабуем стаць такім "голасам", які нясе жыватворнае і праўдзівае Слова – Езуса Хрыста, які нясе надзею, Добрую Навіну. Нават калі гэта будзе нам шмат каштаваць і не сустрэне адабрэння натоўпу ці сённяшніх Ірадаў, якія, магчыма, чакаюць іншых слоў і іншага пасланя... Будзьма голасам самога Езуса, каб Ён стаў зместам нашых слоў і нашага жыцця.

# „АДПАЧНІ ЎВА МНЕ”

працяг са с. 1

Анґеліна Марцішэўская



*Кс. канонік Антоній Грэмза,*
*духоўны настаўнік дыяцэзіяльнага моладзевага душпастырства “OPEN”*

*Рэкалекцыі на байдарках – гэта ідэя, якая нарадзілася ў моладзевым душпастырстве “OPEN”. Адразу адзначу, што дадзеная ініцыятыва не з’яўляецца чымсьці новым у супольнасці Касцёла. Прыкладам для пераймання стаў св. Ян Павел ІІ, які яшчэ як малады святар Караль Вайтыла разам з моладдзю ладзіў сплавы на байдарках. Пасля пэўнага роздуму над тым, як актыўна і з карысцю правесці час, падчас чарговай сустрэчы ў межах “OPEN” было прынята супольнае рашэнне, каб гэта быў не толькі сплаў па рацэ, але рэкалекцыі на прыродзе са штодзённай св. Імшой, канферэнцыяй, дыскусіяй і супольнай малітвай. Так, пачынаючы з 2009 года, час актыўнага летняга адпачынку мы спалучаем з духоўнымі практыкаваннямі.*

*Разам з тым хачу падбадзёрыць асоб, якія ані разу не хадзілі на байдарках. Не бойцеся, варта паспрабаваць свае сілы! Гэта цудоўная магчымасць праверыць вынослівасць, а таксама раздзяліць свой час з тымі, хто шукае духоўнай прыгоды, спалучанай з актыўным адпачынкам.*

*Праграма рэкалекцый на байдарках залежыць ад маршрута і складанасці сплаву па рацэ. Звычайна гэта займае 2-3 дні. Спачатку мы плануем шлях, улічваючы свае фізічныя магчымасці. Дамаўляемся наконт байдарак і транспарту. Калі ўсё гатова, едзем увечары на месца першага начлегу ля выбранай ракі. Сумесна вячэраем і каля вогнішча маем першую канферэнцыю і супольную малітву. Раніцай ізноў молімся, давяраючы Госпаду будучы дзень, і снедаем. Затым слухаем канферэнцыю і атрымліваем практычнае заданне. Пазней адбываецца сплаў па рацэ. Падчас абеду дзелімся сваімі перажываннямі. Увечары ўжо на новым прывале расстаўляем палаткі, удзельнічаем у св. Імшы і адарацыі, якая праводзіцца на адмыслова падрыхтаваным моладдзю алтары. Вячэра ізноў каля вогнішча, пасля – час песень і цікавых гісторый. Падобным чынам выглядае кожны дзень рэкалекцый.*

*Удзел у ініцыятыве напэўна стане духоўнай прыгодай, але не трэба спадзявацца, што гэта будзе лёгкі час. Цяжкасці з’яўляюцца ў працэсе сплаву і падчас супольнай спраўнасці людзей: ідзе праверка на адказнасць адзін за аднаго і здольнасць працаваць у камандзе. Аднак магу гарантаваць, што цяжкасці толькі загартуюць і зробяць гэты час незабыўна цікавым.*

*Сёлета рэкалекцыі адбудуцца ў другой палове ліпеня. Каб даведацца больш, запрашаем на моладзевыя сустрэчы пры гродзенскім пабрыгіцкім касцёле кожны чацвер а 19-ай гадзіне. Давайце адправімся ў гэтую цудоўную вандроўку разам!*



*С. Мар’яна Алешчык CSFN,*
*адна з арганізатарак рэкалекцый сямейнага тыпу*

*Летнія рэкалекцыі для сем’яў мы звычайна плануем загадзя, амаль за год, каб сужэнцы маглі наперад арганізаваць свой водпуск. Звычайна пасля Новага года я ўжо маю спіс удзельнікаў рэкалекцый – месцы запаўняюцца з хуткасцю святла. Гэта і не дзіўна, бо праграма сапраўды насычаная. У яе ўваходзяць канферэнцыі на абраную тэму, адарацыя, індывідуальныя разважанні і размовы са святаром, споведзь, сустрэчы ў групах і магчымасць пазяліцца сваім досведам, верай. Цэнтрам жа духоўнай часткі праграмы з’яўляецца спатканне з жывым Хрыстом у Эўхарыстыі.*

*Безумоўна, прадугледжаны і актыўны адпачынак для ўсёй сям’і і супольнасці. Між іншым, ладзіцца выезд на возера Свіцязь. Або ў рамках экскурсіі і, канешне, для ўшанавання наведваем месцы, звязаныя з гісторыяй жыцця і мучаніцкай смерці нашых нябесных заступніц бл. сясцёр назарэтанак з Навагрудка. Звычайна рэкалекцыі праходзяць на працягу тыдня.*

*Мы ўлічваем і тое, што сужэнцы павінны мець крыху часу “для сябе”. Калі бацькі прымаюць удзел у адмысловых сустрэчах, іх дзяцей бавяць аніматары – манахіні і свецкія вернікі. Хлопцы і дзяўчаты, адпаведна іх узросту, праводзяць час з карысцю для душы і цела. Заўважаем, што мамы і таты заўсёды ўдзячныя за гэтую ініцыятыву.*

*Таксама мамы шчаслівыя адпачыць ад гатавання і прыбірання, а ў тат з’яўляецца шанс пагуляць з дзецьмі. Аднак самае галоўнае тое, што ў кожнага ўдзельніка ёсць хвіліны, напоўненыя Богам і цішынёй.*

*На жаль, сёння члены сем’яў шмат часу праводзяць ва ўласных занятках: бацькі запрацаваныя, дзеці ў тэлефонах. І паколькі мы арганізуем менавіта сямейныя рэкалекцыі, то імкнёмся зрабіць усё, каб сям’я мела таксама і супольны захапляльны адпачынак падчас сустрэчы з магчымасцю ўзрастаць духоўна. Асобна адзначу, што маем традыцыю аднаўлення сужэнскіх абяцанняў, каб пара памятала, што з’яўляецца адным цэлым.*

*Назіраючы за ўдзельнікамі духоўных практыкаванняў на працягу многіх гадоў, бачу, што для сем’яў гэты час з’яўляецца сапраўднай альтэрнатывай традыцыйнаму адпачынку.*

*І мы, сёстры назарэтанкі, моцна цешымся гэтаму, бо сэнс нашага служэння – несці ў сем’і супакой і ідэалы жыцця Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта. Разам з сем’ямі мы вучымся прастому жыццю, служэнню паводле прыкладу Марыі і Юзафа і паслухмянасці паводле Езуса. Мы хочам, каб нашы сем’і і мы самі былі святымі: у клопаце адзін пра аднаго, у адпачынку, у гульнях, у цэлым жыцці...*



*Кс. Юрый Бяганскі,*
*кусташ санктуарыя Маці Божай Каралевы Нашых Сем’яў у Тракелях*

*Каб наведаць менавіта фэст у Тракелях, які звычайна ладзіцца ў пачатку ліпеня, існуе шмат прычын. Аднак адзначу дзве, на якія варта звярнуць асаблівую ўвагу. Па-першае, санктуарый у Тракелях з’яўляецца галоўным у дыяцэзіі, інакш кажучы, мае першы ранг. Гэта значыць, што стараннi для арганізацыі фэсту на самым высокім узроўні прыкладае ўся дыяцэзія. Па-другое, абраз Маці Божай Тракельскай, які змяшчаецца ў мясцовай святыні, на працягу некалькіх соцень гадоў славіцца цудамі, а гэта значыць, што дыяцэзіяльны санктуарый – моцна намоленае месца, дзе можна атрымаць шмат ласкаў.*

*Дыяцэзіяльныя ўрачыстасці прапануюць багатую малітоўную праграму, прымаючы ўдзел у якой, можна спасцігнуць ацаленне, супакой, радасць і любоў. Можна не ўдзельнічаць у кожным пункце, а абраць адзін і акунуцца ў яго поўнасцю. Разнастайнасць праграмы на тое і разлічана, каб кожны выбраў сабе штосьці адпаведнае. Галоўны пункт – св. Імша. Аднак, як Езусу было недастаткова толькі духоўнай ежы, так і вернікам прапануецца іншая частка праграмы. Кірмаш, які даўно стаў неад’емным элементам, з’яўляецца добрай нагодай пакаштаваць смачнай ежы, пазнаёміцца з вырабамі беларускіх рамеснікаў і каталіцкай літаратурай, а таксама правесці час за прыемнай гутаркай з сябрамі або проста аднадумцамі.*

*Аднак трэба памятаць, што санктуарый у Тракелях – гэта, найперш, духоўны санаторый. І плён удзелу ў фэсце шмат у чым будзе залежаць ад таго, якую мэту сабе паставіць: ці толькі пабадзяцца па кірмашы, ці спасцігнуць новую духоўную вышыню.*

*За тры гады, пакуль знаходжуся на пасадзе кусташа, на маю электронную паштовую скрыню прыйшло мноства сведчанняў духоўных і фізічных ацаленняў пасля ўдзелу вернікаў у Тракельскіх урачыстасцях. Шмат пацвярджэнняў атрымання дару патомства ад сужэнстваў, якія на працягу доўгага часу не мелі дзяцей. Пасля мінулага года 97% падзяк прыходзіць ад тых, хто перамог каранавірус. Усё дзякуючы заступніцтву Маці Божай.*

***Малітва – насамрэч нялёгкая справа, але толькі праз яе можна дазволіць Богу ўвайсці ў сябе і нарэшце адпачыць па-сапраўднаму.***

---

АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Беларуская версія Ватыканскага інтэрнэт-радыё ўжо ў эфіры

Пачала дзейнічаць беларуская версія Ватыканскага інтэрнэт-радыё. Гэты год для папскай радыёстанцыі юбілейны – яна адзначае сваё 90-годдзе.

Анлайн-трансляцыя даступна як на сайце Vatican News, так і ў аплеце Radio Vaticana для смартфонаў на IOS і Android. Апрача навін і рубрык беларускай рэдакцыі, у праграме штодзённа будзе св. Імша, Літургія гадзін (Ютрань, Нешпары, Камплета) і Ружанец на лацінскай мове, а таксама шмат класічнай музыкі.

### Поўны адпуст для заручаных, якія разам моляцца на ружанцы

Дыкастэрыя па справах свецкіх, сям’і і жыцця апублікавала разважанні да ружанцовай малітвы для заручаных. Яна заклікала іх у чэрвені разам маліцца на ружанцы і атрымаць поўны адпуст.

Аб магчымасці атрымання адпусту гаворыцца ў дэкрэце Апостальскай Пэнітэнцыярыі, прымеркаваным да Юбілейнага года св. Юзафа.

Разважанні, апублікаваныя на старонцы Дыкастэрыі, перакладзены на 5 моў. Жаніх і нявеста змогуць атрымаць поўны адпуст падчас кожнага ружанцовага набажэнства (не абавязкова з выкарыстаннем ватыканскіх разважанняў) пры звычайных умовах (сакраментальная споведзь, эўхарыстычная св. Камунія і малітва ў інтэнцыях Святога Айца).

Юбілейны год у гонар св. Юзафа праходзіць у Каталіцкім Касцёле з 8 снежня 2020 года па 8 снежня 2021 года.

### Злачынства педафіліі будзе ўнесена ў Кодэкс кананічнага права

У Кодэкс кананічнага права будзе ўведзены канон аб злачынствах, звязаных з сексуальным выкарыстаннем непаўналетніх. Пра гэта паведаміў сакратар Папскай рады па інтэрпрэтацыі заканадаўчых тэкстаў.

Біскуп Хуан Ігнасія Ар’ета Ачоа дэ Чынчэтру адзначыў, што асобны канон на гэтую тэму будзе ўключаны ў новую рэдакцыю VI Кнігі Кодэкса (Санкцыі ў Касцёле), якая рыхтуецца да выдання.

У раздзел “Злачынствы супраць жыцця, годнасці і свабоды чалавека” ўвойдуць каноны, звязаныя з забойствам, абортам, выкраданнем або гандлем людзьмі і сексуальным выкарыстаннем непаўналетніх.

### Малітоўныя інтэнцыі на чэрвень

**паўсюдная**

Молімся за маладых людзей, якія рыхтуюцца да сужэнства пры падтрымцы хрысціянскай супольнасці – каб яны ўзрасталі ў любові з велікадушнасцю, вернасцю і цярплівасцю.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў супольнасць Жывога Ружанца і іншыя малітоўныя таварыствы ў нашай дыяцэзіі.

# ГРОДЗЕНСКІ ТЭАЛАГІЧНЫ КАЛЕДЖ ІМЯ СВ. КАЗІМІРА АБ'ЯЎЛЯЕ НАБОР НА 2021/2022 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

**Сярод галоўных мэт Тэалагічнага каледжа ў Гродне – умацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень). Форма навучання – завочная.**



Заняткі праводзяцца ў 1-ую і 3-юю суботу і нядзелю месяца.

Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ і атрымаць ступень магістра або доктара.

Навучэнцы каледжа маюць магчымасць атрымаць веды па тэалогіі (дагматычнай, маральнай, пастаральнай), Святым Пісанні, гісторыі Касцёла, літургіі, кананічным праве, патралогіі, сямейнай этыцы, сацыяльным вучэнні Касцёла, філасофскіх навуках (гісторыі філасофіі, тэадыцэі), псіхалогіі, педагогіцы, катэхетыцы, сродках масавай камунікацыі і іншых дысцыплінах згодна з нормамі і вучэннем Каталіцкага Касцёла.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**

- *заява (напісаная ўласнаручна);*
- *біяграфія (напісаная ўласнаручна);*
- *рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;*
- *копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;*
- *копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі ці іншыя дакументы аб адукацыі;*
- *копія пашпарта (с. 31–33);*
- *4 фотаздымкі 3x4;*
- *медыцынская даведка;*
- *анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).*

Дакументы прымаюцца пасля папярэдняга запісу **з 1 чэрвеня да 20 жніўня** кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі па адрасе: **г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.**

Папярэдні запіс: **тэл.: (8 029) 887-71-05; (8 015) 261-05-24.**

e-mail: **kaledz.tealagiczny@gmail.com.**

***Кваліфікацыйная размова адбудзецца 24 жніўня ў 11.00.***

***Дакументы падаюцца асабіста.***

*Адміністрацыя Гродзенскага тэалагічнага каледжа імя св. Казіміра*

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**АЎСТРАЛІЯ.** Мітрапаліт Сіднэя выказаў пратэст супраць планаў новага ўрада аўстралійскага штата Новы Паўднёвы Уэльс узяць на сябе кіраванне ўсімі могілкамі, уключаючы касцёльныя. Ён адзначыў, што гэтую ролю прыняла б свецкая дзяржаўная бюракратыя, у той час як "клопат пра памерлых – гэта духоўная, а не свецкая місія". "Наша вера вучыць, што гэта адзін з учынкаў міласэрнасці адносна цела, і ён ляжыць у аснове таго, як мы клапоцімся пра свае могілкі. Здаецца, урад разглядае валоданне могілкамі толькі як крыніцу даходу, без уразлівасці да іх духоўнага элемента і да пажаданняў сем'яў памерлых", – адзначыў арцыбіскуп Энтані Фішэр.

**ПОЛЬШЧА.** У Варшаве перад касцёлам капуцынаў устаноўлена ўнікальная скульптура канадскага мастака Цімаці Шмальца. "Бяздомны Езус" ужо з'явіўся, між іншым, у Ватыкане, Мадрыдзе і Дубліне. Скульптура прадстаўляе бяздомнага, які ляжыць на лаўцы, шчыльна захутаны ў плашч. 3-пад плашча бачны толькі ногі са слядамі ран пасля ўкрыжавання. Праект па ўсталяванні ў Варшаве скульптуры з "Бяздомным Езусам" паўстаў каля 3-ох гадоў таму. Прапанова паступіла з Канады з асяроддзя Мальтыйскага ордэна.

**ФРАНЦЫЯ.** У Парыжы Антыфа напала на працэсію вернікаў, якія збіраліся ўшанаваць памяць 49-ці католікаў, расстраляных антыклерыкальнымі прыхільнікамі Парыжскай камуны ў 1871 годзе. Удзельнікаў працэсіі, у тым ліку пажылых людзей, пабілі. Адзін чалавек шпіталізаваны. Адпраўной кропкай працэсіі была плошча de la Roquette, месца забойства тагачаснага арцыбіскупа Парыжа Жоржа Дарбоя. Працэсія, арганізаваная на заклік 5-ці парафій на ўсходзе Парыжа і некалькіх дыяцэзіяльных таварыстваў, павінна была прайсці 4 кіламетры вакол парафіі Нотр-Дам дэ Отаж, дзе 150 гадоў таму адбыліся расстрэлы.

**АНГЛІЯ.** Па гістарычных саборах Англіі можна пілігрымаваць веласіпедам. Святыні злучыў маршрут агульнай даўжынёй больш за 3200 км. Як адзначаюць стваральнікі, шматкіламетровыя маршруты карыстаюцца ў Вялікабрытаніі ўсё большай папулярнасцю сярод веласіпедыстаў. Шлях, які ў выпадку 42 – пераважна гатычныя – святыні павінен стаць для іх яшчэ адной альтэрнатывай, на гэты раз з выразным духоўным і гістарычным акцэнтам. Маршрут устанавіла Асацыяцыя англіканскіх сабораў у супрацоўніцтве з двума велаклубамі.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПЕРАЛОМ. САМ-НАСАМ З БОГАМ

*Андрэй Вашкевіч*

Сёння ў Пераломе, вёсцы на маляўнічых надньёманскіх пагорках, афіцыйна пражывае каля дзесяці чалавек. А яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя насельніцтва вёскі складала не менш за 130 асоб. Цяпер вёска збольшага "заселена" дачнікамі, а пра яе мінулае нагадваюць каталіцкія могілкі і невялікая драўляная капліца – філія парафіі ў Гожы, дзе час ад часу адбываюцца службы.

Мясцовасць з назвай Перадом (або Перла, або Перлам) вядома з XIV стагоддзя. Недзе тут існавала ўмацаванае паселішча ці нават замак, пабудаваны для аховы ад крыжакаў, якія шукалі зручныя месцы, каб пераправіцца праз Нёман і ісці на Гродна ці Вільню. Пазней, у канцы XV – першай палове XVI стагоддзяў, існаваў Гожска-Пераломскі павет і аднайменнае староства Троцкага ваяводства. Гожскім і пераломскім намеснікам некаторы час быў знакаміты баярын Іван Глінскі, які пасля ўзбунтаваўся супраць вялікага князя і ўцёк у Маскву.

У 1742 годзе троцкім кашталянам Аляксандрам Пацеем тут была ўзведзена капліца, асвечаная пад тытулам Нараджэння Маці Божай і св. Юрыя і далучаная да парафіі Гожа. Драўляная святыня была ашалявана, крыта гонтам, на хорах стаяў малы арган на 5 галасоў.

З таго часу святыня неадназразова перабудоўвалася, а пасля паўстання 1863 года яе зачынілі. Адбудаваная ў 1911 годзе, капліца згарэла праз 4 гады падчас баёў І Сусветнай вайны. На яе месцы ў 1921 годзе на сродкі пана Міхала Гарацкевіча быў узведзены новы драўляны храм пад гістарычным тытулам.

Незадоўга да пачатку ІІ Сусветнай вайны ў Пераломе з'явіліся айцы капуцыны. Як расказвалі мясцовыя жыхары, на прыгожую мясцовасць звярнуў увагу бр. Якуб з Ломжы, які праплываў міма на параходзе. Ён быццам адпачываў у Друскеніках і ўбачыў касцёл, таму вырашыў сюды завітаць. Жыхары Пераломa спачатку прынялі барадатага капуцына за артадаксальнага яўрэя. Бр. Якуб агледзеў плябанію і касцёл, які быў філіяй Гожскай парафіі, і ўжо ў чэрвені 1938 года айцы Вацлаў, Яцэк, Клеменс, браты капуцыны Якуб, Крыспін, Караль і арганіст Эрнст (быў этнічным немцам) пераехалі ў Перадом назаўсёды. Бр. Якуб пасяліўся ў пабудаваным ім невялікім доміку, а рэшта – у прыведзенай да ладу плябаніі.

Перадом стаў першай пляцоўкай капуцынаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Літаральна напярэдадні вайны побач з касцёлам з'явіўся трохпавярховы кляштар. Пачас вайны манахі змушаны былі пакінуць




Будынак кляштара айцоў капуцынаў побач з касцёлам у Пераломе

пляцоўку. Там засталіся толькі браты Крыспін і Караль.

У пасляваенны час касцёл быў зачынены, а ў сярэдзіне 1950-ых гадоў братоў капуцынаў пазбавілі права называцца кляштарам. Плябанію разабралі і перавезлі ў Пальніцу, зрабіўшы з яе школу для дзяцей з Пальніцы і Лукавіцы. Праз некалькі гадоў гэтую школу перанеслі ў вёску Багушоўка. Хутка разабралі і кляштар, перавезшы яго ў Сонічы. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў там размяшчалася школа, а цяпер знаходзіцца мясцовая філія арганізацыі меліярацыйна-воднай гаспадаркі.

6 студзеня 1970 года быў разбураны і пераломскі касцёл. Бярвенне са святыні звезлі ў Грандзічы, каб збудаваць там дзіцячы садок, але ў выніку яно проста згніло. Ад былой пустэльні капуцынаў застаўся толькі домік бр. Якуба, дзе амаль да сярэдзіны 1980-ых гадоў жылі браты Крыспін і Караль.

На хвалі перабудовы і рэлігійнага адраджэння канца 1980-ых гадоў мясцовыя жыхары пачалі дамагацца аднаўлення святыні. Вельмі паспрыяў працэсу а. Станіслаў Гаўлік, пробашч у Прывалцы. У жніўні 1990 года былі закладзены падмуркі пад новы храм, а ў 1995 годзе капліца пад падвойным гістарычным тытулам Найсвяцейшага Імя Марыі і св. Юрыя была асвечана. На сходках былой святыні (адзінае, што ад яе засталося) усталявалі помнік з крыжам і надпісам па-польску: "Тут стаяў касцёл і кляштар айцоў капуцынаў".

Сёння капліца ў Пераломе і дом-пустэльня бр. Якуба – гэта Божае месца, куды прыязджаюць адпачыць і пабыць разам з Богам сам-насам айцы капуцыны, якія служаць па ўсёй Беларусі.

# ШЧЫРАЯ РАЗМОВА З ДОКТАРАМ: "КАЛІ ЭМАЦЫЯНАЛЬНА РЭАГАВАЦЬ НА КОЖНЫ ВЫПАДАК, ТО ЦЯБЕ НЕ ХОПІЦЬ НА СЯМ'Ю, НА ДЗЯЦЕЙ, НА СЯБЕ"

працяг са с. 1

**У грамадстве ўрачы заўсёды былі асаблівай групай, якая карыстаецца вялікім даверам і агульнай павагай. З пачаткам пандэміі яны зноў трапілі ў асаблівы фокус. Аднак за ціхай і сканцэнтраванай працай існуе нябачная для простага чалавека рэчаіснасць.**

**Сёння размаўляем з практыкуючым тэрапеўтам пра штодзённы складаны свет, у якім жывуць і працуюць радавыя лекары. Спрабуем разабрацца, як адбываецца эмацыянальнае выгаранне, агучванне безнадзейных дыягназаў і, у рэшце рэшт, як наладзіць ва ўсім гэтым свае адносіны з Богам.**

**Маргарыта Аслаўская – урач агульнай практыкі, заведуючая тэрапеўтычным аддзяленнем Гарадской паліклінікі № 3 г. Гродна, доктар першай катэгорыі з 16-гадовым стажам, жонка хірурга, мама чацвярых дзяцей, член Асацыяцыі Святой Сям'і пры Кангрэгацыі сясцёр назарэтанак.**

Арцём Ткачук



Сям'я Аслаўскіх часта ладзіць супольны духоўны адпачынак: ці то удзел у пілігрымках, ці ў сямейных рэкалекцыях

***– Ці праўда, што тэрапеўты найбольш "народныя" дактары? Да іх часцей ходзяць, прычым зазвычай з больш лагоднымі захворваннямі.***

– Так, гэта праўда. Я ўвогуле назвала б тэрапеўтаў пяхотай. Як у арміі пяхота сустракаецца з усімі цяжкасцямі, гэтак жа і тэрапеўты. Гэта тыя людзі, якія першымі становяцца тварам да твару з хваробамі. Іх задача – правільна скіраваць чалавека, а самае простае ўзяць на сябе. Тэрапеўту трэба ведаць усё, прынамсі, арыентавацца ў многім. Праца складаная, але цікавая.

***– А што адчувае доктар, калі падчас такога "лагоднага" візіту пацыенту трэба сказаць пра нейкі сур'ёзны дыягназ?***

– Калі гэта вельмі сур'ёзны дыягназ, то ён, канешне, ставіцца ў стацыянары і там агучваецца. Таму звычайна да нас людзі прыходзяць ужо з выпіскамі. За сябе магу сказаць, што я разумею, што чалавеку заўсёды трэба казаць праўду. Людзям, якія баяцца смерці, хваробы, гавару, што прагноз неспрыяльны, ёсць сур'ёзная праблема, але мы будзем рабіць усё, на што здольны, а ў Госпада могуць быць свае планы, таму ўсякае можа здарыцца. Я стараюся змякчыць вестку, не шкіраваць чалавека праўдай.

***– Распавядзіце, калі ласка, якую-небудзь гісторыю з уласнай практыкі, якая запала Вам у душу на доўгія гады.***

– У мяне быў адзін пацыент, якога я добра памятаю. У яго была анкалогія лёгкага. Хвароба ўжо перайшла на апошнюю стадыю. Дыягназ быў агучаны не мною, а ў стацыянары, дзе мужчына праходзіў лячэнне. На жаль, з медыцынскага пункту гледжання перспектывы ўжо не было, прагноз быў неспрыяльны. Пацыент не мог прыняць свой дыягназ, ён проста адмаўляўся ў гэта верыць.

Мяне выклікалі да хворага, як пазней аказалася, за два дні да яго смерці. Ён сядзеў такі сумны, апусціўшы галаву на мазолістыя рукі, яго жонка сядзела побач. І мне было так шкада яго! Язык не паварочваўся ні сказаць, што ўсё скончана, ні даць памылковую надзею, што ўсё будзе добра. Я проста яго прытуліла і пачала гаварыць пра Бога.

Аказалася, ён хрышчоны чалавек, але ў Царкву не хадзіў і малітваў не ведаў. Мы з ім проста добра паразмаўлялі: аб тым, што Бог яго любіць, што жыццё не заканчваецца смерцю, што не трэба баяцца і непакоіцца з-за наведання ніводнай малітвы, а можна проста сваімі словамі звяртацца да Бога, размаўляць з Ім, што варта схадзіць да споведзі…

Не ведаю, ці паспеў гэты мужчына паспавядацца, аднак яго вобраз дагэтуль стаіць у мяне перад вачыма. Я памятаю яго і веру, што Госпад будзе міласэрны да свайго блуднага сына.

***– Як адбываецца прафесійная дэфармацыя ў дактароў? Такія гісторыі ўсё-такі складана перажываюцца – павінна ж уключацца нейкая псіхалагічная абарона.***

– Магу сказаць выключна пра сябе. Канешне ж, ёсць такі тэрмін як "эмацыянальнае выгаранне". Спачатку вельмі цяжка перажываць смерць сваіх пацыентаў, пазней да гэтага ставішся прасцей. Ты прызвычайваешся да смерці. Страшны дыягназ страшны толькі для чалавека, а для доктара ён застаецца проста дыягназам, тэрмінам, якім карыстаешся, які запісваеш у гісторыю хваробы. У душу западаюць толькі вельмі сур'ёзныя і складаныя сітуацыі, бо рэшта, на жаль, становіцца руцінай. Ты проста гэта робіш, таму што абавязаны. Гэта твая праца.

Магчыма, мае словы гучаць жорстка, але так ёсць на самой справе. Калі спачатку прыходзіш дадому і плачаш, то пазней да гэтага прызвычайваешся. Адзін чалавек выйшаў з кабінета – і ты прымаеш наступнага пацыента. Калі эмацыянальна рэагаваць на кожны выпадак, то цябе не хопіць на сям'ю, на дзяцей, на сябе.

Добра быць хрысціянінам, у якога ёсць Госпад, каторы дапамагае ўсё гэта перажыць і не ачарсцвець. Я б так сказала. Мне Бог дапамагае не ператварыцца ў такую машыну, якая штосьці робіць і не спачувае.

***– Ваш муж – апёкавы хірург. Яго будні, хіба што, больш сумныя. Ёсць жа нейкія гісторыі, якія Вы разам перажываеце, абмяркоўваеце? У якія моманты псіхалагічная абарона не вытрымлівае?***

– Прабівае тады, калі здараецца смерць маладой асобы, смерць чалавека, у якога сям'я, нейкая вельмі цяжкая хвароба альбо складаная жыццёвая сітуацыя: напрыклад, ён нікому не патрэбны, не мае блізкіх, калі чалавек самотны са сваёй хваробай. Вось гэта прабівае.

***– Самі ўрачы гавораць, што веруючы хірург адрозніваецца ад няверуючага толькі адным – ён моліцца перад аперацыяй. У астатнім жа – абодва аднолькавыя прафесіяналы. Ёсць сэнс увогуле такога падзелу?***

– Пацыенты патрабуюць не толькі лекаў ці аперацыі. Яны часта прыходзяць з псіхасаматыкай: ім штосьці баліць, але корань усяго ў глыбокіх псіхалагічных праблемах. Чалавек гэтага не ўсведамляе, ходзіць па дактарах, але ты аб'ектыўна разумееш, што хваробы няма. Прафесіянал скажа: вам патрэбна кансультацыя псіхатэрапеўта, вы саматычна здаровы чалавек.

Зразумела, мы выконваем усё механічна, прафесіяналізм застаецца аднолькавы. Аднак веруючы сапраўды просіць у Бога дапамогі і адчувае кіраванне Святога Духа: як Ён дапамагае разбірацца ў дыягназах, якое падабраць слова. Веруючая асоба глядзіць на чалавека духоўнымі вачыма, бачыць не толькі хваробу, але яго ўсяго. Хрысціянін нейк падтрымае, скіруе, скажа слова, якое праб'е, памоліцца і, канешне, таксама накіруе да псіхатэрапеўта. Але ўсё ўжо будзе зусім па-іншаму.

Мне ўзгадалася адна наша пацыентка, якая ўвесь час скардзілася. Яна шукала ў сябе хваробы, хацела атрымаць групу па інваліднасці. Аднак аб'ектыўна ў яе не было для гэтага ніякіх падстаў. Жанчына прыходзіла ў паліклініку праз дзень, скандаліла, кудысьці пісала скаргі. Яе ведала ўся адміністрацыя і ўсе дактары. З ёю было цяжка.

Аднойчы прыйшла да мяне на прыём, і мы проста пачалі размаўляць. Я слухала, як яна скардзілася, і раптам адчула такое натхненне Святога Духа, што проста прытуліла яе і сказала: "Бог вас вельмі любіць". І жанчына нечакана стала плакаць. Распавяла мне пра ўсё сваё жыццё: як з яе здзекаваўся муж, а пазней проста кінуў з псіхічна хворым дзіцём, як яна цягне свайго сына – ужо дарослага мужчыну, які не працуе, як не хапае грошай… Аказалася, гэтая жанчына была глыбока самотным чалавекам з вялікай крыўдай на жыццё, на мужа. Яна доўга плакала, але пасля той размовы змянілася. Перастала хадзіць у паліклініку і скардзіцца на ўсіх, пачала дапамагаць сваім суседкам запісвацца на прыём да ўрачоў, хадзіла для іх у краму. Чалавек пераключыўся на дапамогу іншым.

***– А ў Вас ёсць нейкія адмысловыя хрысціянскія "штучкі", звязаныя з прафесіяй дзейнасцю?***

– Канешне, гэта малітва за пацыентаў. Заўсёды, калі іду на выклік, прыём ці калі мяне проста клічуць, бо камусьці ў паліклініцы стала дрэнна, перш за ўсё, бяру фанэндаскоп і танометр, а збягаючы па лесвіцы, малюся. Каб Госпад дапамог хвораму, каб навучыў мяне, скіраваў.

Сапраўды, куды б я ні ішла, заўсёды прашу ў Бога дапамогі. Бо без гэтага ніяк!



У сужэнстве Маргарыта і Андрэй раздзяляюць запал да веры ў Хрыста і медыцынскага служэння

# ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ: Я Ў АНГЛІІ!

працяг са с. 1

Анжэліна Марцішэўская

***Першымі ўражаннямі адносна новага месца дзеліцца с. Агнешка Рамашка.***

Шчыра кажучы, мне на працягу апошняга часу моцна хацелася перамен: ці то паехаць у іншую краіну, ці то зведаць іншую форму служэння, акрамя катэхезы. Калі Беларусь наведала Генеральная Маці Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, я нават ёй агучыла сваё шчырае жаданне. І далей працягнула шукаць варыянты змен. Зразумела, калі на электронны адрас супольнасці прыйшоў ліст з запрашэннем у Англію, я ўжо праз 15 хвілін прапанавала сваю кандыдатуру. Мне падаецца натуральным імкнуцца штосьці змяняць, нават калі табе падабаецца актуальны стан рэчаў ва ўласным жыцці. Я моцна любіла катэхізаваць дзяцей у Беларусі, рыхтаваць іх да першай сустрэчы з Езусам у св. Камуніі. Аднак сэрца прагнула іншага.

***“Можа, Пан Езус хоча мець мяне там?”***

Англія – цудоўная еўрапейская краіна, у якой уражвае абсалютна ўсё! Адбываючы 10-дзённы каранцін, мы пакуль бачылі мала, але нават раён, у якім жывём, захапляе. Шмат зеляніны паўсюль, цудоўныя паркі побач, прыватныя домікі амаль усе датуюцца XVIII стагоддзем, а прыхатнія тэрыторыі адрозніваюцца вялікай задбанасцю. Ну і, канешне, заўважылі ўжо на нашых вуліцах славутыя чырвоныя двухпавярховыя аўтобусы. Наколькі ўдалося зведаць, найбліжэйшая да нас парафія знаходзіцца ў 40-а хвілінах пеша ад будынка нунцыятуры – супольнасць хрыстусоўцаў. Цікава, што мае апошняе месца служэння ў Беларусі было таксама побач з ксяндзамі хрыстусоўцамі – у парафіі св. Яна Евангеліста і Максімільяна Кольбэ ў Мінску.



С. Агнешка Рамашка CSFN цешыцца магчымасці рэалізаваць сваё пакліканне ў новай форме

***“Прынялі як сваіх”***

Сустрэлі нас тут вельмі цёпла. Першае, што падалі на стол, была бульбачка – традыцыйна па-беларуску. Толькі, на жаль, не такая смачная, як у нас, а моцна вадзяністая. Увогуле частуемся звычайнай ежай: яйкамі, мясам, тварагом, хлебам. Новаўвядзеннем з'яўляецца толькі абавязковая англійская чайная цырымонія: п'ём гарбату з малаком штодзённа, толькі не ў 17.00, як прынята, а ў 11.00.

Нунцый паклапаціўся і пра наш камфорт падчас св. Імшы. Служба праходзіць па-англійску, але чытанні і спевы абавязкова па-беларуску.



Будынак Апостальскай нунцыятуры ў Лондане

**Вялікабрытанія – гэта пераважна хрысціянская краіна. Да Рымска-Каталіцкага Касцёла належаць 10-16% грамадзян. Абсалютная ж большасць брытанцаў з'яўляюцца вернікамі Англіканскай Царквы, якая мае афіцыйны статус дзяржаўнай рэлігіі Англіі.**

Дарэчным будзе адзначыць, што англійскай мовы я не ведаю, і гэта сапраўды сур'ёзны бар'ер у функцыянаванні за мяжой. Калі даведалася пра паездку, пачала глядзець анлайн-урокі англійскай мовы і некалькі разоў сустракалася з настаўніцай, якая дала пэўны фундамент. Аднак гэтага, зразумела, недастаткова. Цешыць, што мясцовыя людзі вельмі ветлівыя, не высмейваюць акцэнт і не раздражняюцца, калі табе складана выразіць сваю думку. Заўсёды ставяцца з добрай усмешкай і пашанай. Неўзабаве нунцый павінен знайсці нам выкладчыцу англійскай мовы з Расіі ці Украіны, таму спадзяюся, што моўная праблема вырашыцца.

Улічваючы, што распарадак дня ў манаскіх асоб падобны, нягледзячы на месца прабывання – малітва, пасілак, абавязкі, малітва, – часам я забываю, што знаходжуся за 2000 км ад дома. Аднак моцна спадзяюся на безліч новых уражанняў. І ўдзячна Богу, што праз служэнне ў нунцыятуры прычыняюся да служэння самому папу Францішку!

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці можна пасля смерці блізкага чалавека на працягу года ажаніцца/выйсці замуж?

grodnensis.by

*Каб адказаць на гэтае пытанне, варта разгледзець два асноўныя моманты: **што такое сужэнства і што такое жалоба?***

*Касцёл вучыць, што сужэнства – гэта саюз, праз які мужчына і жанчына ўстанаўліваюць паміж сабой супольнасць усяго жыцця (параўн. ККП 1055). “Заключыць такі саюз могуць мужчына і жанчына, ахрышчаныя, якія маюць права ўзяць шлюб, дабравольным чынам выражаюць сваю згоду” (ККК 1625) і не звязаны папярэднім сужэнскім саюзам (параўн. ККП 1085.1). Саюз спыняецца са смерцю аднаго з сужэнцаў.*

*Што датычыць жалобы, мы адрозніваем дзве яе формы: жалоба як эмацыянальны стан і жалоба як звычай. Пачуццевая жалоба – гэта эмацыянальны стан, які з'яўляецца натуральнай рэакцыяй чалавека на смерць блізкай асобы. Для яе характэрны смутак, адмаўленне і нежаданне насіць каляровую вопратку і ўдзельнічаць у забавах. Працягласць гэтай жалобы можа быць большая або меншая, у залежнасці ад асобы і адносін з чалавекам, які адышоў у вечнасць. Пачуццевая жалоба з'яўляецца парывам сэрца і з яго паходзіць.*

*Жалоба як звычай акрэслівае дэталі жалобнага перыяду – працягласць (15 месяцаў пасля смерці жонкі ці мужа, год – пасля смерці бацькоў, 6 месяцаў – пасля смерці бабулі ці дзядулі і г. д.), пэўныя забароны і загады (чорныя хусткі, вопратка, стужкі; забарона рабіць макіяж, удзельнічаць у вяселлях, забавах). Жалоба як звычай не рэгулюецца Правам і не ўтварае перашкоды для заключэння новага сужэнскага саюзу.*

# ВАЗЬМІ БОГА НА ВАКАЦЫІ!

**Вакацыі – час адпачынку, расслаблення, паездак і водпускаў, аб якіх марым, якіх прагнем. Гэта моманты, вольныя ад працы, ад спешкі, ліхаманкі і захопленасці сотнямі паўсядзённых спраў. Вакацыі – такая доўгачаканая пара, бо можна нарэшце дазволіць сабе паленавацца і адкласці абавязкі на потым. Праца можа пачакаць, таму што кожны заслугоўвае адпачынку.**

Кс. Юрый Марціновіч

Адпускныя прапановы турыстычных агенцтваў, нягледзячы на пандэмію, якая пануе навокал, заахвочваюць і прываблівають каляровымі здымкамі з найпрыгажэйшых куткоў свету. Многія людзі раздумваюць, што з тых прывабных прапаноў выбраць. Аднак ці сярод прагляду турыстычных афертаў, пакавання чамаданаў, заплечнікаў, а таксама надзеі, што надвор'е будзе добрым, узнікае пытанне пра Бога? Ці не спрабуем мы адсунуць Яго на другі план? “Бог? Пачакае! Не ўцячэ ж Ён з касцёла!”

І сапраўды... Бог чакае! Чакае тых, каму здаецца, што Ён ім не патрэбны, тых, хто адмаўляе Яго існаванне, і нават тых, хто забывае, што ад Бога няма адпачынку. Ён чакае і ў прыдарожнай капліцы, і ў невялічкім вясковым драўляным касцёле, і ў сустрэтым чалавеку. Ён прамаўляе да нашых вачэй прыгажосцю пейзажаў. Усюды, дзе мы вандруем па вакацыйных маршрутах, чакае Бог.

Творца не медыйная асоба. Ён не змяшчае сябе на вялізным білбордзе і ніколі не навязваецца людзям. Ён проста ёсць. Заўсёды побач, заўсёды блізка, заўсёды прысутны. Не дазволім, каб у час канікул адзінокі Хрыстос дарэмна чакаў сустрэчы ў Эўхарыстыі, сакраманце пакаяння і паядналення, у малітве і ў падзяцы за прыгажосць створанага свету.

Вакацыі – гэта дар Нябеснага Айца кожнаму чалавеку, незалежна ад таго, колькі яму гадоў. Дык няхай гэты дар будзе правільна намі выкарыстаны. Няхай час адпачынку прынясе ў нашы жыцці плён Божай ласкі, каб мы зноў адчулі сябе любімымі Богам, які жадае нашага дабра і шчасця.

## Малітва на канікулы

**Пане, навучы мяне добра адпачываць і праводзіць вольны час. Я прашу Цябе аб здольнасці бачыць прыгажосць прыроды, цудоўнасць жывёл, каб я зноў навучыўся захапляцца навакольным светам.**

**Пане, благаславі ўсіх, хто выязджае на адпачынак, каб выдатна правялі гэты час. Дзякуй, што не забываеш усіх тых, хто не можа выехаць з-за недахопу сродкаў альбо хваробы. Пане, змілуйся над намі і ўчыні, каб людзі былі добрымі адзін да аднаго. Амэн.**

# ЯК ЁН ЛЮБІЎ ЧАЛАВЕКА, ЯК ЁН ЛЮБІЎ СВЯТАРСТВА!

працяг са с. 1

**У чэрвені мінулага года па ўзнагароду да Неба адышоў а. Леон Вітэк OMI, які прысвяціў частку свайго святарскага жыцця душпастырскаму служэнню ў Гродзенскай дыяцэзіі. На працягу 19 гадоў ён з вялікай самааддачай і ахвярнасцю служыў пробашчам у парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы. Сваім заўзятым, бескарыслівым святарскім служэннем, апостальскім запалам, а таксама асабістым сведчаннем жыцця а. Леон унёс уклад у духоўнае і маральнае абнаўленне беларускіх вернікаў.**

*А. Юзаф Нясловы OMI*



*А. Леон Вітэк у роднай парафіі Здуны*

А. Леон Вітэк нарадзіўся 23 сакавіка 1934 года ў Здунах каля Кратошына (Польшча) ў сям'і Станіслава і Саламеі. Рана страціў абодвух бацькоў. Пасля іх смерці разам з сястрой пераехаў у Кратошын. З 14-ці гадоў быў звязаны з супольнасцю аблатаў. У 16 далучыўся да Аблацкага юніярата ў Люблінцы. Аднак яму не дадзена было скончыць гэтую школу, таму што ў 1952 годзе дзяржаўныя ўлады забралі будынак школы ў аблатаў і ліквідавалі юніярат. Як выключэнне, хлопцу разам з аднакласнікамі дазволілі паступіць у навіцыят, хаця ён скончыў толькі два гады сярэдняй школы. У верасні 1952 года а. Леон распачаў свой навіцыят у Святым Крыжы, які праз год завяршыў першай прафесіяй. Як асоба, якая склала часовыя абяцанні, быў накіраваны ў Маркавіцы, каб там у часовым юніяраце скончыць навучанне з перыяду сярэдняй школы. Затым перайшоў у семінарыю ў Обры, дзе 8 верасня 1957 года склаў вечныя манаскія абяцанні, а 18 сакавіка 1962 года атрымаў пасвячэнне прэзбітэрата з рук арцыбіскупа Антонія Бараняка.

Пасля пасвячэння а. Леон выконваў душпастырскую паслугу ў Люблінцы, Міламлыне, Белагардзе, а таксама ў трох вікарыятах: Гожуве Велькапольскім, Вроцлаве-Пільчыцах і Кендзежыне-Козлі. У ліпені 1983 года стаў дырэктарам новага дома ў Загуціне і пробашчам мясцовай парафіі. У 1989 годзе быў прызначаны суперыёрам і эканомам манастыра ў Гожуве Велькапольскім. Праз два гады пераведзены ў Седльцы, дзе на працягу года выконваў абавязкі суперыёра. Затым скіраваны ў манастыр у Гданьску як народны місіянер і спаведнік.

У 1992 годзе межы Беларусі адкрыліся для святароў з Польшчы, якія хацелі працаваць тут у душпастырстве. Спачатку на працу ў суседнюю краіну выехаў аблат а. Казімір Енджэйчак. Праз два гады, маючы ўжо 60 гадоў, туды накіраваўся і а. Леон Вітэк. Неўзабаве да іх далучыўся а. Пётр Бялевіч. Так паўстала першая пасляваенная супольнасць аблатаў у Беларусі. Сваю паслугу ў краіне а. Леон мусіў спыніць вясной 2014 года, бо не атрымаў ад дзяржаўных улад г. зв. справкі – прадаўжэння побыту.

Працу ў Беларусі а. Леон пачынаў у Адамавічах, дзе разам з а. Енджэйчакам яны на працягу паўгода абслугоўвалі дзве парафіі. У студзені 1996 года а. Леон пераняў касцёл у Балі Касцёльнай каля Гродна і працаваў там, пакуль не пакінуў Беларусь у 2014 годзе. У савецкі час даваенная польская назва мясцовасці "Баля Касцёльная" была зменена на "Зарачанку".

Паслуга а. Леона была простай і ненадакучлівай. Як ліхтарчык з навелы Генрыка Сянкевіча, вырваны з рытму ранейшага жыцця, ён пасяліўся на новым месцы, каб штодзень запальваць малое полымя ў сэрцах людзей. Сапраўды, служэнне святара было ціхім і без асаблівай агалоскі. Ён заўсёды быў даступны для парафіян, ніколі надоўга не пакідаў парафію. Яго штодзённая прысутнасць была патрэбна як простым людзям – парафіянам з вёскі, так і алюмнам з гродзенскай семінарыі, якім ён служыў спаведнікам і духоўным айцом. У гэтай простай паслузе ён быў шчаслівы, радасны і цешыўся кожнай сустрэчы. Гэта была Божая радасць, якая ззяла і ўдзялялася іншым. Людзі ўспаміналі, што, не знайшоўшы а. Леона ў плябаніі, яны адразу ішлі ў касцёл, дзе ён часта адараваў Найсвяцейшы Сакрамант.

Плён душпастырскай працы святара можна было ўбачыць на нядзельнай св. Імшы, калі выстройваліся чэргі да канфесіянала, а захопленыя малітвай і спевам людзі актыўна ўключаліся ў літургію, хаця арганіста не было.

На яго развітанні з парафіяй Баля Касцёльная прысутнічаў кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч, які быў здзіўлены вялікай колькасцю вернікаў. Развітваючыся з а. Леонам, плакалі не толькі дарослыя, але і моладзь, і дзеці.

Пасля вяртання ў Польшчу ў 2014 годзе а. Леон атрымаў накіраванне ў Кендзежын-Козле. Наколькі яму дазваляла здароўе, служыў у мясцовай парафіі, у першую чаргу, як спаведнік з добрым сэрцам і нязгаснай усмешкай на твары. "Святарства – гэта самы вялікі Божы дар. Поўная паслуга ля алтара і ў канфесіянале. Пан паслаў мяне прапаведаваць Евангелле самым бедным", – казаў а. Леон пра сваё пакліканне.

У маі 2020 года здароўе святара пагоршылася, і быў шпіталізаваны. Калі вярнуўся з бальніцы, у яго пачалася гарачка, што выклікала падазрэнне ў захворванні на каранавірус. А. Леон быў дастаўлены ў інфекцыйную бальніцу ў Чанстахове, дзе і памёр на наступны дзень. Як высветлілася пазней, не меў каранавіруса, але гэта падоўжыла час пахавання, якое адбылося толькі на восьмы дзень пасля яго смерці.

А. Леон Вітэк памёр у 86 гадоў, на 66-ым годзе манаства і 58-ым годзе святарства.

Яго пахаванне адбылося ў Люблінцы 16 чэрвеня на новых могілках у аблацкім квартале. Пахавальную св. Імшу ўзначаліў правінцыял а. Павел Заяц, які на пачатку св. Імшы зачытаў ліст са спачуваннямі ад біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. Казанне прамовіў жыхар Кендзежын-Козля а. Веслаў Навотнік, які, між іншым, сказаў: "У сваім жыцці я сустрэў чалавека, аблата, шчаслівага святара. Гэта было відаць на твары і ў кожным жэсце, у кожным позірку. Ён перажываў цудоўную чалавечнасць і гэтым заражаў усіх, да каго дакрануўся на сваім жыццёвым шляху. [...] Як ён любіў чалавека, як любіў святарства!".

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***13 чэрвеня – XI Звычайная нядзеля***
***Мк 4, 26–34***

Езус сказаў народу: "Валадарства Божае, нібы чалавек, што кідае зерне ў зямлю. І спіць, і ўстае ноччу і днём, а як зерне ўзыходзіць і расце, ён не ведае. Бо зямля прыносіць плён сама па сабе: спачатку зеляніну, потым колас, потым поўнае зерне ў коласе. Калі ж саспее плод, адразу пасылае серп, таму што настала жніво". І казаў: "З чым параўнаем Валадарства Божае? Ці ў якой прыпавесці выявім яго? Яно – як гарчычнае зерне: калі яго сеюць ў зямлю, яно найменшае з усяго насення на зямлі. Калі ж пасеяна, узыходзіць і становіцца большым за ўсялякую зеляніну, і пускае вялікае галлё, так што пад ценем яго птушкі нябесныя могуць хавацца". У многіх такіх прыпавесцях прапаведаваў ім слова, колькі яны маглі слухаць. І без прыпавесці не казаў ім, а сваім вучням сам-насам тлумачыў усё.

### Адчуць Божае дзеянне

*Божае Валадарства можна адшукаць у самых дробных падзеях штодзённасці, у якой заўсёды ёсць свае ўзлёты і падзенні. Мы знаходзім яго там, дзе аддаём і атрымліваем любоў. У кожным дні, калі любім іншага чалавека, калі цікавімся ім, ёсць Божае Валадарства.*

*Адчуваем Бога ўсюды, дзе іншыя адорваюць нас сваёй любоўю, калі нам дрэнна, калі маем праблемы, калі спатыкаем нейкія няўдачы. Мы не ведаем, як, але любоў дае эфект. У сваім Валадарстве Бог хоча, каб мы любілі, бо калі любім, з'яўляемся Яго Валадарствам, прыносім гэтае Валадарства і самі яго адчуваем.*

*Бог можа здзейсніць у нас і праз нас вялікія рэчы. Падобна таму, як Ёнператварае малюсенькае зярнятка ў статныя кусты, як з галінкі робіць вялікія дрэвы, так у сваёй дабрыні і вернасці дазваляе нам расці і развівацца духоўна, каб мы маглі прыносіць блаславёны плён. Але такое Божае ўзрастанне патрабуе ад нас супрацоўніцтва. Толькі тыя, хто "Яму падабаецца", "праведнікі", як падкрэслівае св. Павел, могуць узрастаць у Богу і прыносіць багаты плён.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне нястомна ўзрастаць у Табе і прыносіць вялікі плён. Дазволь адчуваць Тваё дзеянне штодзённа!*

***20 чэрвеня – XII Звычайная нядзеля***
***Мк 4, 35– 41***

У той дзень, калі настаў вечар, Езус сказаў сваім вучням: "Пераправімся на той бок". Адпусціўшы людзей, яны забралі Яго з сабою, калі быў у чаўне. І былі з Ім іншыя чаўны. І ўзнялася вялікая бура. Хвалі залівалі човен, так што човен ужо напаўняўся. А Ён спаў на карме каля ўзгалоўя. Будзяць і кажуць Яму: "Настаўнік, не хвалюе цябе, што мы гінем?". І, устаўшы, Ён забараніў ветру і сказаў мору: "Замоўкні і супакойся". І вецер сціх, і настала вялікая ціша. І сказаў ім: "Чаго вы такія баязлівыя? Яшчэ не маеце веры?". Яны напоўніліся вялікім страхам і гаварылі паміж сабой: "Хто Ён такі, што і вецер, і мора слухаюцца Яго?".

### Звярнуцца да Езуса

*Жыццё чалавека заўсёды было і надалей працягвае быць напоўнена небяспекамі. Нам пагражаюць стыхійныя бедствы, хваробы, войны, а зараз – пандэмія. Часам дастаткова хвіліны – і чалавек памірае. На працягу стагоддзяў людзі імкнуліся засцерагчыся ад небяспекі. Тым не менш у нас застаўся страх за жыццё, і яго сіла нават працягвае ўзрастаць.*

*Многія не адчуваюць непасрэднай пагрозы свайму жыццю, але перажываюць іншыя праблемы: адсутнасць павагі да чалавечай годнасці, закона і маральных каштоўнасцей, адсутнасць працы... Гэтыя з'явы нараджаюць у людзях няўпэўненасць, разбураюць пачуццё сэнсу жыцця і ствараюць пустэчу, у якой усё мацней адгукаецца запалоханае сэрца.*

*Для многіх гэты хаатычны свет з'яўляецца доказам таго, што Бога не існуе альбо што Яго не цікавіць чалавек. Магчыма, падобная думка з'явілася і ў галовах вучняў Езуса, якія змагаліся са стыхіяй. Нягледзячы на блізкасць Настаўніка, яны адчулі сябе адзінокімі і пакінутымі. Збаўленнем стаў непасрэдны зварот да Езуса, які даў ім зразумець, што страх перамагаецца верай.*

*Той, хто давярае Богу, зможа прыняць любы складаны досвед. Вера не аддаляе пакуты і цяжкасці, але дае чалавеку свабоду і ўпэўненасць у тым, што над усім чувае Бог, які вядзе да паўнаты шчасця.*

*Пане Езу Хрысце, умацоўвай маю веру, каб я заўсёды мог адчуваць сябе вольным і упэўненым. Толькі з Тваёй ласкай магу быць шчаслівы!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ АНТОНІІ ШЭЙГЕРЭВІЧ

*з нагоды імянін шчыра жадаем патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі святога заступніка і ўсяго самага лепшага. Няхай Вашы планы і намеры рэалізуюцца, а Маці Божая нястомна падтрымлівае на шляху да Пана.*

*Вернікі парафій Поразава і Свіслач*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ ПАЖЭЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, а Пан Бог надалей благаслаўляе Ваша нястомнае служэнне і праяўляе да Вас бязмежную міласэрнасць. Шчыра дзякуем за стараннe, каб як мага даступней растлумачыць нам Божае слова.*

*Парафіяне касцёла св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ АНТОНІЮ ФІЛІПЧЫКУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень, радасці і аптымізму, нястомнасці ў душпастырскай паслузе, а таксама добрых людзей навокал. Няхай міласэрны Бог заўсёды Вас благаслаўляе.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ваўкавыска*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ АНТОНІЮ ФІЛІПЧЫКУ

*з нагоды імянін і дня нараджэння сардэчна жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Панны Марыі і святога заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, добрага здароўя, шчасця і поспехаў ва ўсіх справах. Шчыра дзякуем за клопат пра нас.*

*З малітвай удзячныя парафіяне, Кола Жывога Ружанца Маці Божай Нястомнай Дапамогі і Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ АНТАНІНЕ

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госцяць радасць і спакой, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў. Няхай святая заступніца апекуецца Вамі, а Езус Хрыстус і Панна Марыя адорваюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень Вашага жыцця.*

*З малітвай удзячныя парафіяне, Кола Жывога Ружанца Маці Божай Нястомнай Дапамогі і Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць на працягу ўсяго жыцця, каб Вы заўсёды з вялікай радасцю служылі Богу і людзям.*

*Парафіяне з в. Малінавая*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя на доўгія гады, неабходных сіл для рэалізацыі намераў, аптымізму і як мага больш адкрытых ды шчырых сэрцаў на жыццёвым шляху. Няхай Езус Хрыстус напаўняе Вас сваёй моцай і радасцю кожны дзень.*

*З малітвай Андрэй Слонімец, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі і ўсёй Гродзенскай дыяцэзіі*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЗДЗІСЛАЎ ПІКУЛА!

*З нагоды юбілейнага дня нараджэння сардэчна жадаем, каб кожны новы дзень прыносіў Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранalі трывога і смутак, а служэнне прыносіла толькі задавальненне і радасць. Няхай агеньчык дабрыні, запалены Богам у Вашым сэрцы, гарыць на працягу ўсяго жыцця і ніколі не гасне. Дзякуем Усемагутнаму за дар Вашага святарства, бясконцую адданасць Касцёлу і любоў да людзей. Ад усяго сэрца просім у Пана для Вас вялікай цярплівасці і сіл. Жадаем здароўя на доўгія гады, душэўнага святла і супакою, Божай дапамогі і благаслаўлення ў жыццёвых справах і добрых пачынаннях. Няхай Пан Бог за ўсё Вас узнагародзіць!*

*З малітвай, павагай і любоўю Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЗДЗІСЛАВУ ПІКУЛУ

*з нагоды юбілею 70-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчасця, радасці і надзеі на кожны дзень, мудрасці і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік заўсёды Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажыць кожны дзень. Сардэчна ўдзячны Вам за працу па аднаўленні нашай святыні і хрысціянскай веры. Няхай Пан узнагародзіць Вас усімі дабротамі.*

*З малітвай парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарства шчыра жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для вернікаў прыкладам жыцця, а любоў і супакой застаюцца назаўсёды ў Вашым сэрцы!*

*Парафіяне з Наваельні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІМІРУ ГУЛЯЮ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб здароўе было моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай на дарозе, указанай Богам, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, адорваючы благаслаўленнем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух, жывы агеньчык якога ззяе ў Вашым сэрцы, будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

### ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАГДАЛІНЕ КУЛАЙ

*з нагоды юбілею з дня нараджэння шчыра жадаем Божага благаслаўлення. Няхай Езус заўсёды жыве ў Вашым сэрцы і напаўняе яго яшчэ большай верай, цярплівасцю, любоўю да дзетак, якіх Вы вучыце пазнаваць Пана. Дзякуем Богу за Ваша служэнне ў нашай парафіі, за дабрыню і адкрытасць, клопат пра дзяцей і капліцу, за заўсёды цудоўна ўпрыгожаны алтар. Мы вельмі Вас цэнім і молімся аб доўгіх гадах жыцця, моцным здароўі, радасці і шчасці для Вас!*

*З малітвай Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб міласэрны Бог праз нашы малітвы ўзнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам у шчырай ды адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго сэрца ды ахіне ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы крочым разам з Вамі. Дзякуем за дабрыню, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас і за Божае слова, якое засяваецца ў нашых сэрцах. Жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін на працягу ўсяго жыцця.*

*З павагай і малітвай вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯЎГЕНУ УЧКУРОНІСУ

*з нагоды 17-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і служэння ў нашай парафіі жадаем благаслаўлення ад Усемагутнага і Яго ласкаў на кожны дзень душпастырскай службы. Няхай Хрыстос заўсёды будзе для Вас Прыкладам і надзейным Праваднікам, а Маці Божая прытуляе да свайго мацярынскага сэрца, нястомна апекуецца і абараняе ад зла. Няхай Божае слова з Вашых вуснаў у моцы Святога Духа даходзіць да нашых сэрцаў, а Ваша сэрца хай заўсёды будзе напоўнена Божай любоўю і святлом, каб з радасцю служылі Богу і нам, парафіянам. Жадаем здароўя, цярплівасці і шчаслівай усмешкі на твары. Няхай наш святы заступнік Ян Павел II будзе побач, а Ваша жыццё і шлях служэння будзе плённым і шчаслівым!*

*З малітвай Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ

*ў дзень нараджэння жадаем добрага здароўя, радасці ў душпастырскай паслузе і сіл для рэалізацыі планаў. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашага святарства, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Няхай вера становіцца яшчэ больш заўзятай, а прамаўляемае Вамі Божае слова глыбей трапляе ў сэрцы вернікаў.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай жыццё з верай, надзеяй і любоўю прынясе Вам Божае благаслаўленне, здароўе заўсёды спрыяе, шчасце і радасць будуць Вашымі нястомнымі спадарожнікамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды мае Вас у сваёй апецы.*

*Удзячныя парафіяне і апостальства “Маргарытка” з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі і дароў Святога Духа ў выкананні душпастырскага служэння. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе прасякнуты радасцю і непагасным аптымізмам, Маці Божая заўсёды абараняе ад небяспекі і атуляе сваёй бясконцай любоўю, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі ў кожную хвіліну дня і ночы. Няхай кожны дзень будзе напоўнены шчасцем, радасцю, дабрынёй і надзеяй.*

*Удзячныя парафіяне з в. Вішнева*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ІГАРУ АНІСІМАВУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай добры Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца Вамі і атуляе плашчом любові Беззаганнага Сэрца, а Святы Дух спасылае свае дары, асвячае шлях і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, лагодную ўсмешку, добрае сэрца і мудрыя павучанні.*

*Малітоўная група і парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, радасці на кожны дзень, супакою ў сэрцы. Няхай Святы Дух падтрымлівае Вас сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік заўсёды Вамі апекуюцца.*

*Валерый, Вераніка, Яна*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ

CATHOLIC.BY

**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Напрыканцы мая 8 беларускіх святароў-байкераў здзейснілі пілігрымку ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе. Свой шлях і малітву ксяндзы ахвяравалі ў інтэнцыі адбудовы касцёла, які быў пашкоджаны ў выніку пажару 11 мая. У Доме пілігрыма, дзе цяпер моляцца вернікі Будслава, святары канцэлебравалі св. Эўхарыстыю.

Пілігрымы-байкеры сустрэліся з пробашчам будслаўскай парафіі кс. Дзмітрыем Дубовікам, каб выказаць яму словы падтрымкі і сваю гатоўнасць дапамагчы. Святары таксама прывезлі ахвяраванні, якія сабралі ў сваіх парафіях 23 мая – у дзень, калі ва ўсіх касцёлах і парафіяльных супольнасцях Беларусі збіраліся ахвяраванні на адбудову будслаўскага касцёла.

Каталіцкі ВЕСНІК

**газета Віцебскай дыяцэзіі**

На завяршэнне навучальнага года ў Віцебскай катэдры прайшоў Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання сярод малодшых вернікаў. У спаборніцтве прынялі ўдзел амаль паўсотні дзяцей. Хлопцы і дзяўчаты рыхтаваліся да гэтага дня некалькі месяцаў: вывучалі кнігі Тобія і Евангелле паводле св. Мацвея. У падрыхтоўцы ім дапамагалі бацькі і катэхеты.

Як адзначыў біскуп Алег Буткевіч, які наведаў дзяцей падчас конкурсу, “кожны, хто прыняў удзел у гэтым мерапрыемстве, ужо перамог, бо глыбей адкрыў для сябе Божае слова”. Аднак пераможцы ўсё роўна былі вызначаны. Кожны ўдзельнік атрымаў дыплом і падарунак ад “Карытас” Лінц (Аўстрыя). Былі таксама смачны абед, гульні і танцы.

RV Radio Vaticana

**беларуская рэдакцыя**

Энцыкліка папы Францішка “Laudato si’” аказвае значны ўплыў на палітыку Еўрапейскага Саюза ў сферы аховы навакольнага асяроддзя. Гэты дакумент Святога Айца шмат абмяркоўваўся ў кулуарах структур ЕС.

Анджэла Сальцы з Еўрапейскага выканаўчага агенцтва па клімаце, інфраструктуры і навакольным асяроддзі прызнаўся, што асабіста быў сведкам беспрэцэдэнтнай увагі да “экалагічнай” энцыклікі Папы. Сальцы распавёў, што пасля з’яўлення “Laudato si’” “на працягу некалькіх тыдняў у калідорах еўрапейскіх структур не размаўлялі ні пра што іншае, акрамя яе”. Ён падкрэсліў, што ў праекце “Green Deal”, які запусціла Еўрапейская камісія, моцна адчуваецца ўплыў энцыклікі.

GRODNENSIS.BY

**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем’яў у Тракелях трое святароў падзякавалі Пану Богу за 15 гадоў святарскага служэння.

У святыні, якая з’яўляецца цэнтрам культу Маці Божай у Гродзенскай дыяцэзіі, Імшу ў гэты дзень цэлебравалі пробашч парафіі св. Станіслава, біскупа, і св. Максімільяна Кольбэ ў Каробчыцах, дэкан дэканата Гродна-Захад кс. Ян Рушніцкі, пробашч новай парафіі св. Айца Піо ў Гродне (Грандзічы) кс. Артур Малафей і пробашч парафіі св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах (дэканат Іўе) кс. Дзмітрый Несцер.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2190; тыраж 4700; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.